673_632.qxd 3/4/2022 9:23 PM Page 1 (3,1)


# Весткі й Паведамленьні

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня "ПАГОНЯ"*

**Viestki j Paviedamleńni**

Электронны адрас: *viestki@mail.com*
✉ *P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*

**№ 3(673)**
**Сакавік 2022 г.**


# Мітынг супраць расейскай агрэсіі і акупацыі Беларусі

У нядзелю, 13 лютага 2022 году, у Нью-Ёрку перад штаб-кватэраю Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў на Мангэтане ў Нью-Ёрку адбыўся мітынг беларускай грамады Нью-Ёрку і ваколіцаў супраць пагрозы расейскай агрэсіі Украіны і супраць акупацыі Беларусі войскамі Расеі, што ўвашлі ў Беларусь нібыта пад прэтэкстам чарговых вайсковых манэўраў. Імпрэза была ладжаная супольна Беларуска-Амэрыканскім Задзіночаньнем (БАЗА) і Беларуска-Амэрыканскім Згуртаваньнем "Пагоня". Удзельнікі мітынгу сабраліся, ня гледзячы на сьнег і халоднае неспрыяльнае навор'е, у Ральф-Банч-парку пры 1-й авэню насупраць ААН.

Напачатку перад прысутнымі выступіў старшыня Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня "Пагоня" сп. Віталь Зайка. Ён адзачыў, што ў дадзены момант, калі Расея нагнала свае войскі да межаў Украіны і ўжывае сытуацыю, каб прасоўваць свае агрэсіўныя і рэваншысцкія пляны, у Беларусі ўжо знаходзяцца дзясяткі тысяч расейскіх вайскоўцаў і тысячы адзінак баявой тэхнікі. Гэтыя сілы з тэрыторы Беларусі могуць у кожны момант быць скарыстаныя супраць незалежнай суверэннай Украіны, якую пуцінскі рэжым не ўважае за асобную краіну, а толькі за аб'ект захопу і экспаньсіі. Цяпер існуе рэальная пагроза таго, што расейскія войскі ў Беларусі могуць стаць ударнай сілай Расеі па захопе і анэксіі Беларусі. Акрамя гэтага ўцягненьня Беларусі ў рэваншысцкія пляны Пуціна і ягонага асяродзьдзя, падвышаецца напружанасьць вакол магчымай агрэсіі супраць Украіны і пагроза для міру і стабільнасьці ў Эўропе. Пуцін выкарыстоўвае слабую і некампэтэнтную палітыку адміністрацыі Байдана, каб атрымаць максымальныя выгоды для сваго рэжыму, і каб накручваць шавіністычныя настроі ў расейскім грамадзтве, каб дыктаваць усяму сьвету ўмовы для міру згодна са сваімі патрабаваньнямі. І таму прадстаўнікі беларускай грамады Амэрыкі

*заканчэньне на бачыне 2*



# Мітынг супраць расейскай агрэсіі і акупацыі Беларусі

***заканчэньне з бачыны 1***

сёньня выйшлі на мітынг на пляцоўку перад Аб’еднанымі Нацыямі, каб




узьняць свой голас супраць расейскай агрэсіі ў Беларусі й Украіне, каб выказаць падтрымку і салідарнасьць з Украінаю, што апынулася пад непасрэднаю пагрозаю ўварваньня расейскіх войскаў. Цяпер рэакцыя краінаў Вольнага Сьвету на расейскі рэваншызм і шавінізм мусіць быць адрознай ад таго, што было да гэтага. Агульныя санкцыі супраць краіны не вядуць ні да чаго выніковага, а толькі шкодзяць. Цяжар санкцыяў аўтарытарныя рэжымы перакладаюць на плечы простых грамадзянаў. Так было перад тым з санкцыямі супраць Расеі, тое ж атрымлівалася з санкцыямі супраць Іраку часоў Садама Хусэйна і з ранейшымі санкцыямі супраць Беларусі дзеля дзеяньняў Лукашэнкі. Адсюль вынікае, што эфэктоўным могуць быць толькі санкцыі адрасныя, прынятыя супраць канкрэтных асобаў ды іхных сваякоў, што карыстаюць з рабаваньня дзяржмаёмасьці і са службовых парушэньняў дыктатараў. Калі б па канкрэтных пунктах былі ўведзеныя жорсткія санкцыі супраць асабіста Пуціна і ягоных сямейных з замарожваньнем рахункаў у заходніх банках, з арыштам іхняй маёмасьці ў Лёндане, яхтаў на Багамах, палацаў у Флёрыдзе, і таксама падобныя санкцыі супраць міністраў і ды іншых ключавых асобаў рэжыму. Калі б дочкі Пуціна спыталі: “Тата, што такое? Дзе нашыя маёнткі?” — пагражальнай ваеннай рэторыцы, напэўна, прыйшоў бы канец, і апэтыт для далейшых пагрозаў быў бы страчаны. Але, нажаль, не выпадае чакаць такіх рашучых крокаў ад цяперашняга амэрыканскага кіраўніцтва.




Тым ня менш кангрэсмэны і сэнатары нашых акругаў абавязкова мусяць ведаць нашую пазыцыю, і гэткія прапановы варта і неабходна даводзіць да іх ведама.

Затым перад прысутнымі выступіў сябар управы Нью-Ёрскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня (БАЗА) сп. Міхась Чаропка. Ён падкрэсьліў небясьпеку прысутнасьці расейскіх войскаў у Беларусі, іхную пагрозу Ўкраіне і заклікаў да яднаньня сілаў усіх беларусаў на чужыне на выпадак акупацыі Беларусі, каб быць гатовымі для сумесных рашучых дзеяньняў.

Са зваротам да прысутных выступіла рэдактарка газэты “Беларус” спня Ганна Сурмач. Яна зрабіла націск на падтрымцы Ўкраіны і неабходнасьці не дапусьціць агрэсіі Расеі супраць гэтай краіны, бо незалежная дэмакратычная Ўкраіна ёсьць зарукаю таго, што дэмакратычнай і сапраўды незалежнай стане і Беларусь. Таксама неабходна тлумачыць амэрыканцам, што рэваншызм Пуціна — гэта ня “боязь за бясьпеку Расеі, боязь НАТО”, як ён імкнецца паднесьці даверліваму Захаду, але сутнасьць шматкрокавага даўгатэрміновага пляну паўторнага паняволеньня краінаў, што некалі вызваліліся зпад прыгнёту савецкага камунізму.

Прысутныя на мітынгу трымалі плякаты супраць расейскай агрэсіі і ў падтрымку незалежнасьці і непадзельнасьці Ўкраіны, выгукалі лёзунгі “Не — расейскай агрэсіі!”, “Спыніць расейскі імпэрыялізм”, “Свабоду Беларусі — Свабоду Ўкраіне!”, “Жыве Беларусь!”.

***Віталь ЗАЙКА***

673_632.qxd 3/4/2022 9:23 PM Page 3 (3,1)



## Беларусь – Амэрыка: лёсы землякоў

# Янка Тарасевіч - беларускі рэлігійны і грамадзкі дзеяч

Адзін з заснавальнікаў і лідэраў сучаснага беларускага нацыянальнага руху ў Злучаных Штатах Янка (Ян Хрызастом) Тарасевіч (1892—1978) нарадзіўся ў вёсцы Клешнякі Лідзкага павету, што ўваходзіла тады ў Віленскую губэрню. Скончыўшы падставовую асьвету, Тарасевіч у 1911 годзе эміграваў зь Беларусі ў ЗША. Працаваў на баваўняных і абутковых фабрыках у розных штатах і пасьля працы ўвечары працягваў вучыцца. Ён паступіў у місыянэрскі каледж Ла-Салет у штаце Канэктыкут, а ў 1917—1918 гадах вывучаў тэалёгію ў Мантрэалі (Канада). У 1912 годзе ён стаў манахам. Затым у 1925 годзе скончыў Фрыбургскі каталіцкі ўнівэрсытэт у Швайцарыі, атрымаў ступень доктара тэалёгіі. У 1923 годзе Я. Тарасевіч быў высьвечаны на сьвятара. У Амэрыцы ён прысьвяціў сябе навучаньню і душпастырскай працы ў шпіталях. Таксама ён далучыўся да беларускага руху і калегаваўся зь землякамі, якія тады былі на пачатковым узроўні нацыянальнага ўсьвядомленьня і ў большасьці ўважалі сябе за расейцаў. А. Янка Тарасевіч быў захоплены ідэяй зьяднаньня заходняй і ўсходняй галінаў хрысьціянства, асабліва сярод беларусаў, і выдаваў дзьвухмоўны англельска-расейскі часапіс “Царкоўны Голас”, дзе, акрамя розных аспэктаў царкоўнай дагматыкі й прапаведваньня зьбліжэньня ўсіх хрысьціянаў, зьмяшчаў артыкулы на ўласна беларускія тэмы. З 1926 году а. Тарасевіч выкладаў у сэмінарыі каля Олбані ў штаце Нью-Ёрк. У 1936 годзе ён перайшоў у ордэн бенэдыкцінцаў, і з 1937 году працаваў у манастыры Сьв. Пракопа ў горадзе Лайл каля Чыкага.

У 1941 годзе а. Тарасевіч стаў адным з ініцыятараў стварэньня культурнай і грамадзкай арганізацыі Беларуска-Амэрыканская Нацыянальная Рада, разам з Язэпам Воронкам і а. Язэпам Рэшацем. Тарасевіч стаў першым старшынём Рады, а затым уваходзіў у яе ўправу. Арганізацыя была створаная для абароны інтарэсаў беларусаў, дабрачыннай дапамогі і каардынацыі лучнасьці амэрыканскіх беларусаў з сваякамі на Бацькаўшчыне ва ўмовах сусьветнай вайны, якая тады пачалася. Як старшыня Беларуска-Амэрыканскай Нацыянальнай Рады, а. Тарасевіч напісаў шэраг зваротаў да Дзяржэпартаманту ЗША і прэзыдэнтаў ЗША Рузвэльта і Трумана ў справе абароны межаў Беларусі па сканчэньні Другой сусьветнай вайны. Затым у 1955 годзе а. Тарасевіч стаў заснавальнікам беларускай уніяцкай парафіі Хрыста Збаўцы ў Чыкага і быў доўгі час яе духовым кіраўніком. А. Янка Тарасевіч шмат зрабіў, каб поруч з духовым мацаваньнем, зьбліжэньнем хрысьціянаў заходняга і ўсходняга абраду, беларускія іміграны мацаваліся таксама і патрыятычна, у нацыянальным духу.



А Тарасевіч разам з іншымі каталіцкімі дыгнітарамі-беларусамі рабіў захады для стварэньня беларускай каталіцкай парафіі ў Нью-Ёрку, але сутыкнуўся зь неразуменьнем і халоднасьцю да гэтае ідэі з боку найвышэйшага каталіцкага кіраўніцтва ў Амэрыцы. У 1958 годзе да супрацы на ніве рэлігійнай і нацыянальнай да а. Тарасевіча далучыўся ягоны пляменьнік а. Уладзімер Тарасевіч, які перад тым навучаўся ў Рыме, а пазьней, праз колькі год, быў высьвячаны на біскупа.

У 1959 годзе парафія царквы Хрыста Збаўцы ў Чыкага набыла новы будынак, і ў выніку яна сталася не толькі рэлігійным, але і актыўным грамадзкім беларускім цэнтрам. Пры царкве дзеіла нядзельная школка і таксама шэраг беларускіх арганізацыяў. Праводзіліся выставы, маладзёвыя імпрэзы, канфэрэнцыі, вялася выдавецкая дзейнасьць – выходзілі публікацыі “Лісток да Беларусаў”, “Да Злучэньня”, “Newsletter”. Парафія мела блізкія дачыненьні зь беларускай праваслаўнай парафіяй Сьв. Юр’я ў Чыкага. А. Янка (Ян Хрызастом) Тарасевіч быў чалавекам свайго часу, меў сэнтымэнт да расейскай культуры, і праз гэта часам некрытычна ўспрымаў савецкую прапаганду, асабліва адносна фальшывага пацыфізму “барацьбы за мір”, у тым ліку падчас сваіх неаднакротных візытаў у Беларусь пад Саветамі. Разам з тым а. Тарасевіч моцна стаяў на грунце нацыянальным і рэлігійным, і ён спраставаў шляхі да далейшага нацыянальнага разьвіцьця, асабліва для прадстаўнікоў наступных хваляў беларускай эміграцыі ў ЗША. Ён быў аўтарам шэрагу філязофскіх і тэалягічных твораў, сярод якіх “Зло і лякарства на яго”, “Беларусы ў сьвятле праўды”. У 1930-я—1940-я гады ён выдаваў бюлетэнь “Праўда”, англа-расейскамоўны ўніяцкі часапіс “Царкоўны Голас”, у 1952—1961 гадах – “Лісток к Беларусам”. Супрацоўнічаў з часапісамі “Chry cijanskaja Dumka” (“Хрысьціянская думка”), “Божым шляхам”, “Siaubit” (“Сейбіт”) ды іншымі, а таксама публікаваў артыкулы і вершы ў савецкай газэце “Голас Радзімы”. Пахаваны ён на могілках бенэдыктынскага кляштара Сьв. Пракопа ў Лайле, штат Ілінойс.

Памяць пра а. Янку Тарасевіча дасюль захоўваецца ў беларускай грамадзе ў Чыкага.

**Віталь ЗАЙКА**

673_632.qxd 3/4/2022 9:23 PM Page 1 (1,2)



# ЗВАРОТ ДА БЕЛАРУСАЎ У ЗША

Паважаныя беларусы, сябры Ўкраіны!

З вамі мы, творчы калектыў міжнароднага чэшска-ўкраінскага часапіса "Мандрівник" (заснавальнік Таварыства "Опір Західної України" (Чэшская Рэспубліка); выдавец Выдавецтва "Лілія" (Украіна)) супрацоўнічаем у кантэксьце культурных (навука, літаратура і г. д.) беларуска-ўкраінскіх адносінаў шмат гадоў, з самага пачатку расейска-ўкраінскай вайны 2014 году.

24 лютага 2022 году Расейская Фэдэрацыя зь цяжкай бранетэхнікай, авіяцыяй і ваенна-марскім флётам уварвалася і нанесла прыцэльныя ракетныя ўдары па ўсёй тэрыторыі Ўкраіны, парушыўшы сухапутную, паветраную і марскую тэрытарыяльную цэласнасьць краіны і нанёсшы незаменныя страты інфраструктуры.

У выніку баявых дзеяньняў ад рук расейскіх інтэрвэнтаў па ўсёй тэрыторыі Ўкраіны загінулі і працягваюць паміраць грамадзянскае насельніцтва і ўкраінскія салдаты і афіцэры.

Увесь сьвет разам з Украінай, таму прашу і ўсіх вас, беларусаў у ЗША, усімі магчымымі і даступнымі спосабамі – народнай культурнай дыпляматыяй: мітынгамі, паведамленьнямі ў сродках масавай інфармацыі і ў любы іншы даступны вам спосаб распаўсюджваць у ЗША праўду пра расейскую агрэсію ва Ўкраіне.

Дзякуй, што ўсе вы, беларусы Паўночнай Амэрыкі, былі з намі ад 2014 году і просім заставацца з намі ў гэты цяжкі і пераломны для Ўкраіны і ўсяго сьвету момант у гісторыі.

За падзеямі ва Ўкраіне беларусы Паўночнай Амэрыкі могуць сачыць на афіцыйным вэб-сайце часапіса "Мандрівник": ***www.mandrivnyk-eu.jimdofree.com***

***Алег ПАЎЛІЎ***
*Ґалоўны рэдактар часопіса "Мандрівник"*
*Прага, Чэхія*

## ЛІСТЫ

Калі тэндэнцыя на перамогу Ўкраіны ўтрымаецца, то бачу два магчымыя, абодва трагічныя, сцэнары разьвіцьця падзеяў.

Адна – спрабуюць скінуць віну ледзь не за ўсё на Беларусь, зрабіўшы выгляд, што гэта больш яна, а менш Крэмль пачаў вайну. Братазабойчая вайна стала б для ўсіх шокам і часткова перавяла б стрэлкі ўвагі. Таму так моцна ўцягваюць Беларусь, вызначаюць там месца для перамоваў – сымбалічна пераносячы геаграфічны цэнтар увагі. Заключным этапам могуць спрабаваць кінуць беларускіх салдат у мясарубку вайны. Такі перанос віны выгадны таксама Захаду, таму тут нясьпынна мусіруецца інфармацыя пра Беларусь як агрэсара, не без падтрымкі недалёкіх па інтэлекту беларускіх інтэрнэт селебрыці. Такім чынам яна зможа хутчэй вярнуцца да нямецкага realpolitic і business as usual, магчыма, з выкарыстаньнем для прыкрыцьця гандлю трэцяй краіны.

Другі сцэнар – прыніжаны Крэмль можа вырашыць помсьціцца, зладзіўшы Хірасіму і Нагасакі, на выбраных гарадах Украіны. Гаворка пра атамныя станцыі і ракеты вядзецца занадта часта, каб гэтага не заўважаць. Проста так яны паразу не прызнаюць, бо гэта гарантаванае падзеньне рэйтынгу ўнутры імпэрыі і вялікая іміджавая параза.

Трэці сцэнар – гэта нейкі нечаканы цуд зверху.

***Леанід ШЫМКОВІЧ***

**Уплаты ў Згуртаваньне**
**Складкі й ахвяраваньні:**

| | |
|---|---|
| **У. Аляксееў** | **60** |
| **Д. Калеснік** | **60** |
| **А. Лышчык** | **60** |
| **М. Макарчык** | **60** |

**Шчыры дзякуй!**

**Уплаты ў Згуртаваньне "Пагоня" шліце на адрас:**
***P. O. Box 572***
***New York, NY 10113***
**Чэкі выпісвайце на імя скарбніка Згуртаваньня "Пагоня"**
***Viktar Yedzinovich.***

## Абвестка

Сходы Згуртаваньня "Пагоня", якія звычайна адбываліся ў другую суботу кожнага месяца, часова (да адмены ўладамі г. Нью-Ёрку забароны на правядзеньне масавых мерапрыемстваў) праходзіць ня будуць.

-------------------

*Аб імпрэзах, ладжаных Згуртаваньнем "Пагоня", можна даведацца наведаўшы старонку арганізацыі ў Фэйсбуку:* ***https://www.facebook.com/groups/134811029970802/***

**Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні* :**

| | |
|---|---|
| **В. Зайка** | **30** |
| **Д. Калеснік** | **30** |
| **А. Лышчык** | **30** |
| **М. Паўловіч** | **30** |
| **С. Радзько** | **30** |

**Усім шчыры дзякуй!**

*Падпісацца на бюлетэнь можна даслаўшы ў рэдакцыю аплату гадавой падпіскі (**$30**) на адрас:*
***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***
*Чэкі выпісвайце на імя скарбніка "Пагоні"* ***Viktar Yedzinovich.***